*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 581 Чэрвень 2011 г.
Год выданьня 61

## Паважаныя чытачы!

Гэты чэрвеньскі нумар газэты вы атрымалі з некаторым спазьненьнем. За гэта выбачаемся перад вамі і толькі патлумачым, што сталася гэта дзеля таго, каб сабраць і ўключыць у гэты выпуск усе важныя падзеі цалкам за чэрвень. Далей усіх нас чакаюць летнія вакацыі, але, газэта будзе выходзіць, аднак за ліпень і жнівень будзе выдадзены ў жніўні аб'яднаны нумар.

Пераважная частка чэрвеньскага нумару прысьвечаеная падзеям ў беларускім замежжы, дзе адбылося шмат чаго значнага – гэта і пасяджэньне Прэзыдыюму Рады БНР, і чарговы Кангрэс БАЗА, і хіратонія новага япіскапа БАПЦ і інш.

На жаль, апошнім часам беларуская грамадзкасьць панесла балючыя страты і ладную частку газэтнага аб'ёму давялося адвесьці ўшанаваньню памяці адышоўшых у вечнасьць вядомых беларусаў.

Знойдзеце вы ў гэтым выпуску інфармацыі пра гістарычныя і сучасныя адметныя постаці, пра людзей, чыё жыцьцё зьвязанае з бнларускай справаю і служэньнем Бацькаўшчыне.

Не абыйдзіце ўвагаю нашыя інфармацыі пра грамадзкае жыцьцё беларускіх асяродкаў ў ЗША і іншых краінах, адкуль мы атрымліваем паведамленьні.

Прачытайце запрашэньне і падтрымайце сваёй прысутнасьцю "Беларускі фестываль – 2011" ў Саўт Рывэры.

Не палічыце лішнім зазірнуць ў сьпіс нашых ахвярадаўцаў, каб Вам захацелася далей убачыць сярод іх і сваё прозьвішча.

Але, найперш, чакаем ад вас новых інфармацыяў, паведамленьняў, сьвежых думак і прапановаў, каб узбагаціць імі нашу і вашу газэту.

Жадаем нашым чытачам прыемных летніх вакацыяў!
Да сустрэчы ў жніўні!

*Рэдакцыя*

## Пасяджэньне Прэзыдыюму Рады БНР

25 чэрвеня ў Нью-Ёрку адбылося чарговае пасяджэньне Прэзыдыюму Рады БНР. На ім была абмеркаваная сытуацыя, якая склалася ў Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у сьнежні 2010 году і захады, якія зрабіла Рада БНР ў сувязі з фальсіфікацыяй іх вынікаў, наступнымі арыштамі апазыцыйных дзеячаў, судамі і новай ізаляцыяй краіны ад рэшты сьвету. Старшыня Рады паведаміла, што былі прынятыя тры Заявы Рады БНР, высланы лісты ў Эўразьвяз і паасобныя заходнія краіны, дзе інфармавалася сусьветная грамадзкасьць пра стаўленьне Рады БНР да антыдэмакратычных дзеяньняў таталітарнага рэжыму ў Беларусі. Пазыцыя Рады была усприйнятая з разуменьнем і многія выказалі салідарнасьць з ахвярамі брутальных дзеяньняў у дачыненьні да ўдзельнікаў мірнай дэманстрацыі. У прыватнасьці, канадыйскі міністр замежных справаў зрабіў аж тры заявы на гэтую тэму. ЗША і Эўразьвязам былі прынятыя частковыя санкцыі супраць асобаў, якія спрычыніліся да фальшаваньня выбараў і судовых пакараньняў па надуманых абвінавачваньнях апазыцыйных актывістаў.

Паводле зьвестак, якія мы атрымліваем з Беларусі, супраціў рэжыму Лукашэнкі нарастае і ў ім пачынаюць браць удзел людзі, якія дасюль не выказвалі адкрыта сваё адмоўнае стаўленьне. У гэтай сытуацыі мы бачым сваім абавязкам зьвяртаць увагу на ролю Масквы ва ўсіх антыбеларускіх працэсах і бараніць інтарэсы сваёй краіны, сваёй нацыі, сваёй беларускай культуры.

Лейтматывам сьвяткаваньня 25 Сакавіка ў гэтым годзе было пашырэньне ведаў пра Раду БНР, яе сучасную дзейнасьць. Гэтаму паспрыяла грунтоўнае інтэрвю з сябрам Прэзыдыюму Рады Міколам Пачкаевым, якое было выстаўлена на сайце "Нашай Нівы" і надрукавана асобным дадаткам да газэты "Беларус".

Між надзённымі справамі, якімі сябры Рады БНР і старшыня Рады займаліся ў гэты час, варта назваць - удзел у радыёперадачах Радыё Свабода і выступы ў іншых сродках масавай інфармацыі, спатканьні і ліставаньне з палітыкамі розных краінаў, сустрэчы з лідэрамі дэмакратычнага руху Беларусі, зьбіраньне і ўпарадкаваньне архіваў старэйшых дзеячоў БНР, прысутнасьць на беларускіх імпрэзах, уключна з такімі, як хіратанізацыя новага япіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

На пасяджэньні былі прынятыя новыя сябры Рады і складзены плян працы на бліжэйшыя месяцы.

*Старшыня Рады БНР*
*Івонка Сурвілла*

## Чарговы справаздачна-выбарчы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА)

У адпаведнасьці са Статутам БАЗА раз на два гады праводзяцца справаздачна-выбарчыя Кангрэсы. Чарговы Кангрэс адбыўся
28 травеня 2011 ў грамадзкай залі пры беларускай царкве ў Гайленд Парку ў Нью Джэрзы.

У Кангрэсе бралі ўдзел дэлегаты ад Аддзелаў і Гурткоў БАЗА – з Нью Джэрзы, Нью-Ёрку, Вашынгтону, Кліўлянду, Канэтыкуту, Каліфорніі. Сваіх дэлегатаў на Кангрэс не прыслаў Нью-Ёркскі аддзел, які ўжо працяглы час беспадстаўна канфліктуе з Галоўнай управаю. Нью-Ёрк прадстаўлялі дэлегаты Бруклінскага аддзелу, які быў створаны год таму.

Старшынстваваў на Кангрэсе сп. Вітаўт Кіпель, вядомы дзеяч эміграцыі і шматгадовы сябра БАЗА. Са спаваздачным дакладам выступіў старшыня Галоўнай управы БАЗА сп. Вячка Станкевіч, свае справаздачы зрабілі сябры Галоўнай управы і прадстаўнікі Аддзелаў і Гурткоў. Асабліва зьместоўнымі былі інфармацыі пра дзейнасьць Бруклінскага аддзелу сп. Расьціслава Гарошкі, сп. Ірыны Аскіркі з Вашынгтону і сп. Ірыны Бакланавай з Канэтыкуту. Таксама пра сваю працу па выданьню перыёдык распавялі сп. Ганна Сурмач – адказны рэдактар газэты "Беларус" і сп. Віталь Алесіёнак –ад англамоўнага часапісу "Беларускае рэвю". Усе справаздачы былі прынятыя і адобраныя дэлегатамі.

У другой палове Кангрэсу адбыліся выбары новага кіраўніцтва БАЗА – старшыні і складу Галоўнай управы.
Старшынёю Галоўнай управы была абраная сп. **Ганна Сурмач**.

*Склад Галоўнай управы:*

**Сяргей Пятровіч** - заступнік старшыні.
**Сяргей Капытка** - скарбнік.
**Таня Красоўская** - пратакольны сакратар. Вядзе пратаколы пасяджэньняў і пратакольнае справаводзтва
**Юрась Зянковіч** - карэспандэнцыйны сакратар. Рыхтуе карэспандэнцыю ў дзвюх мовах, рассылае паведамленьні пра пасяджэньні, дае абвесткі і паведамленьні ў газэты.
**Ала Орса Рамана** – адказная за культурна- асьветную працу. Кіруе арганізацыяй культурных імпрэзаў і нацыянальных сьвятаў, плянуе асьветную дзейнасьць
**Валеры Дворнік** - арганізацыйны унутраны дырэктар. Праводзіць арганізацыйную працу па падрыхтоўцы мерапрыемстваў БАЗА.
**Вячка Станкевіч** - арганізацыйны вонкавы дырэктар. Адказвае за пашырэньне арганізацыі, падтрымлівае сувязі з іншымі арганізацыямі і дзяржаўнымі структурамі, са сродкамі масавай інфармацыі.
**Віталь Алісіёнак** - дырэктар па сацыяльна-дапамаговых справах. Арганізацыя дапамогі сябрам БАЗА ў справе наладжваньня жыцьця на эміграцыі, прыём і дапамога новым эмігрантам.

На завяршэньне Кангрэсу дэлегатамі і прадстаўнікамі новаабранага кіраўніцтва былі выказаныя меркаваньні, прапановы, парады і пажаданьні для будучай дзейнасьці БАЗА на сёмым дзесятку яго існаваньня.

# Хiратонiя Япiскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы

19 чэрвеня, у Нядзелю Усiх Сьвятых, адбылася знамянальная падзея ў жыцьцi Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У Катэдральным Саборы Сьв. Кiрылы Тураўскага на Атлантык Авэню 401 у Нью- Ёрку ўрачыста прайшла хiратонiя новага Япiскапа БАПЦ, iм стаў Уладыка Серафiм. Высьвячэньне адбылося з удзелам галавы БАПЦ Уладыкi Сьвятаслава i прадстаўнiкоў Украiнскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў ЗША – Архiяпiскапа Аляксандра з Дэтройту, Архiяпiскапа Макарыоса з Хьюстану, айца Мiхаiла з Фiлядэльфii, айца Аляксея з Дэтройту i дзеючых сьвятароў БАПЦ – айца Мiхаiла з Сабору Сьв. Кiрылы Тураўскага i айца Зiновiя з Царквы Жыровiцкае Iконы Божае Мацi ў Гайленд Парку. З эмацыянальным казаньнем да прысутных выступiў Уладыка Макарыос.На ўрачыстасьцi прысутнiчалi вернiкi беларускiх цэркваў з Нью-Ёрку, Нью Джэрзы i Канады, прадстаўнiкi беларускiх арганiзацыяў.

Уладыка Серафiм быў высьвечаны з тытулам – Япiскап Вiленскi i Нью-Ёркскi. Дзеючы галава БАПЦ Уладыка Сьвятаслаў уручыў яму Епiскапскi жэзл, як сымбаль япiскапскай улады.



Пад час Багаслужбы, на пярэднiм пляне – сп. Iвонка Сурвiлла



Прамаўляе Уладыка Аляксандр

# «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку». Новы шлях змаганьня

29 чэрвеня ў Менску i іншых гарадох Беларусi прайшла чацьвёртая акцыя, iнiцыяваная праз Iнтэрнэт суполкамi «Рэвалюцыя праз сацыяльную сетку». Заклiк выходзiць на вулiцы кожную сераду распаўсюджваецца праз iнтэрнэт-сайт «Вконтакте». «Проста шпацыруйце, стойце — проста знаходзьцеся там. З кожным днём нас будзе рабiцца ўсё болей! Калi на плошчы будуць тысячы людзей, то гэта будзе паказчык таго, што можна прыступаць да больш актыўных дзеяньняў», — пiшуць арганiзатары.



Дзьве першыя акцыi «Рэвалюцыi праз сацыяльную сетку» прайшлi пры ўдзеле некалькi сотняў чалавек пад наглядам, але без умяшаньня спэцслужбаў. Мiнулым трэйцiм разам менскiя ўлады арганiзавалi на Кастрычнiцкай плошчы рэпэтыцыю з удзелам актывiстаў БРСМ, абгарадзiўшы плошчу турнiкетамi. Адным з удзельнiкаў падзеi быў Уладзiмер Някляеў, якi гэтак пракамэнтаваў «Рэвалюцыю праз сацыяльную сетку»:

«Хаця б ужо праз тое, што беларусы першымi прыдумалi „Рэвалюцыю праз сацыяльныя сеткi“ — “Гэтага не было на пасьлясавецкай прасторы, то гэта ўжо важная рэч. А тое, што прыдумалi людзi маладыя, найбольш актыўныя — удвая добра... Можна i такiмi сродкамi змагацца, абы змагацца, абы ня быць абыякавымi».

Нягледзячы на тое, што акцыя была маўклiвай i ўдзельнiкi яе не выкарыстоўвалi сьцягоў, транспарантаў, не агучвалi лёзунгаў, мiлiцыя гэтым разам жорстка распраўлялася з моладдзю. Праваабарончы цэнтар «Вясна» паведамiў, што ў Менску затрымалi 150 чалавек.

*Паводле Радыё Свабода*







## ЗША працягнулі санкцыі супраць кіраўніцтва Беларусі

ЗША падоўжылі на год санкцыі ў дачыненьні да некаторых прадстаўнікоў кіраўніцтва Беларусі, уведзеныя 16 чэрвеня 2006 году прэзыдэнтам Джорджам Бушам-малодшым. Пасьля чэрвеня 2007 году прэзыдэнт Буш працягваў тэрмін дзеяньня санкцыяў двойчы, прэзыдэнт Абама – таксама двойчы, ў 2009 і 2010 гадах.

Дакумэнт забараняе беларускім чыноўнікам, а таксама іх сямейнікам валодаць у ЗША ўласнасьцю і весьці ў гэтай краіне фінансавыя апэрацыі. Амэрыканскім кампаніям і прыватным асобам забаронена заключаць зьдзелкі са згаданымі людзьмі з Беларусі.

*14.06.2011*

## Глябальны форум ва Уроцлаве

На штогадовым Глябальным форуме, які прайшоў у польскім Уроцлаве, уганаравалі старшыню Беларускай асацыяцыі журналістаў Жану Літвіну, выказалі салідарнасьць з журналістам Андрэем Пачобутам і спадзяваньні пра непазьбежныя перамены ў Беларусі.




Апошні дзень пасяджэньня Глябальнага форуму пачаўся з выступу былога кандыдата ў прэзыдэнты ЗША, сэнатара Джона Маккэйна. Яго прамова прагучала гімнам дэмакратыі і сацыяльным сеткам як інструмэнту яе дасягненьня. Сэнатар Маккейн узгадаў, што важным чыньнікам пачатку «Салідарнасьці» была арганізацыя друкарні на Гданьскай суднаверфі. Зараз, на ягоную думку, гэтую ролю выконваюць facebook і Twitter.

Адам Міхнік у сваёй прамове сказаў пра Беларусь, што для яго гэтая краіна – гэта Добрарусь, прыгожая краіна добрых людзей, асуджаных на няшчасьце. «Але пасьля самай доўгай ночы наступае золак. І мы выйдзем з вамі на сьветлае сонца свабоды» - сказаў ён, зьвяртаючыся да беларусаў.

Міністар замежных справаў Польшчы Радаслаў Сікорскі нагадаў, што ў многіх месцах у сьвеце ідзе змаганьне за свабоду: кроў льецца на вуліцах іранскіх гарадоў, у беларускай турме сядзіць журналіст Андрэй Пачобут. Міністар паўтарыў думку прэзыдэнта Камароўскага, што дапамагаючы барацьбе за свабоду ў несвабодных краінах, Польшча выплочвае доўг заходнім краінам, якія дапамагалі ёй, калі яна была несвабодная.

Старшыня БАЖА Жана Літвіна, атрымліваючы ўзнагароду, таксама прыгадала справу Пачобута, а таксама іншых журналістаў, якія былі арыштаваныя і асуджаныя, закрыцьцё "Аўтарадыё", пагрозу закрыцьця «Нашай нівы» і «Народнай волі». «У Беларусі судзяць журналістыку як прафэсію» - сказала старшыня БАЖ.

Алесь Бяляцкі, старшыня праваабарончага цэнтру «Вясна» распавёў, якія рэпрэсіі абрынуліся на недзяржаўныя арганізацыі Беларусі пасьля 19 сьнежня, як на працягу 5 месяцаў з гэтага дня ў офісе «Вясны» перятрусы і канфіскацыі рабілі 4 разы. «Недапушчальна, каб у Эўропе заставаўся таталітарны рэжым» - падкрэсьліў праваабаронца.

*11.06.2011*

## Рада ААН асудзіла ўлады Беларусі




Рада ААН у пытаньнях правоў чалавека асудзіла ўлады Беларусі за рэпрэсіі ў адносінах да апазыцыі. Адпаведная рэзалюцыя прынятая 17 чэрвеня . Рэзалюцыя асуджае парушэньні правоў чалавека, што здарыліся перад, у часе і пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі.

Рада ААН зьвярнулася з просьбаю да Вярхоўнай камісаркі ААН у пытаньнях правоў чалавека Наві Пілэй сачыць за сытуацыяй у Беларусі і зрабіць ацэнку стану рэчаў на паседжаньні Рады ў верасьні.

*17.06.2011*

## Новыя санкцыі — папярэджаньне праўладным бізнэсоўцам

Міністры замежных справаў краінаў Эўразьвязу 20 чэрвеня на сустрэчы ў Люксэмбургу пашырылі абсяг санкцыяў супраць Беларусі. Яны замарозілі актывы трох кампаніяў, якія зьвязаныя з Аляксандрам Лукашэнкам. Гэта кампаніі «Белтэхэкспарт», якая займаецца гандлем зброяй, «БТ Тэлекамунікацыі» — генэральны спонсар Прэзыдэнцкага спартовага клюбу сына Аляксандра Лукашэнкі Дзьмітрыя, а таксама маркетынгавая фірма «Спорт-пары», якая таксама зьвязаная з Дзьмітрыем Лукашэнкам.

Рашэньне прынятае з мэтай узмацненьня фінансавага ціску на беларускія ўлады, каб вымусіць іх спыніць рэпрэсіі супраць апазыцыі. Вырашана таксама дадаць у «чорны сьпіс» да 188-мі невыязных беларускіх службоўцаў яшчэ некалькі бізнэсоўцаў. Такім чынам, эўрапейскія санкцыі ўпершыню закрануць бізнэсовы сэктар.

*20.06.2011*

## Пратэсты ў Вашынгтоне




9 чэрвеня сябры Вашынгтонскага гуртка БАЗА ўзялі ўдзел у сьвяткаваньні чацвёртых угодкаў Мемарыялу ахвярам камунізму. Бел-чырвона-белыя кветкі да помніку ўсклалі Вячаслаў Бортнік і Натальля Рабава.

10 чэрвеня сябры Вашынгтонскага гуртка БАЗА арганізавалі пратэст ля штаб-кватэры Міжнароднага Валютнага Фонду (IMF) з заклікам "Ніякіх грошаў крываваму дыктатару".

*Вячаслаў Бортнік*
*каардынатар*
*Amnesty International in Belarus*

## Інфармацыйны пікет ў Парыжы




Інфармацыйны пікет ў Парыжы быў зладжаны сябрамі Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня. Галоўнай мэтай пікету было інфармаваньне жыхароў Парыжа і шматлікіх турыстаў пра складаную палітычную сітуацыю на Беларусі і пра паўзучую палітычную і эканамічную акупацыю крамлёўскай мафіяй краін, якія абралі дэмакратычны шлях разьвіцьця. Арганізатар пікету Павал Хівук зазначае: "Мяне дужа ўразіла жаданьне парыжскай паліцыі пайсьці насустрач і вырашыць усе арганізацыйныя пытаньні праз электронную пошту. У выніку, уся працэдура па атрыманьню дазволу склалася з адсыланьня факсу ў паліцыю і электроннай перапіскі."

Пікет выклікаў абурэньне з боку мінакоў-расейцаў, часьцяком толькі наяўнасьць паліцыі, што ахоўвала пікетоўцаў, стрымлівала іх брутальную агрэсыўнасьць. Мерапрыемства выклікала цікаўнасьць таксама ў журналістаў. Пад час пікету была распаўсюджана вялікая колькасьць інфармацыйных улётак. Пасьля прачытаньня іх шмат людзей падыходзіла, каб прывітаць удзельнікаў пікету і пажадаць посьпехаў у справе засяроджваньня ўвагі заходняй грамадзкасьці на рэаліях сучаснага палітычнага становішча, што складаецца ў краінах былога СССР і Заходняй Эўропы праз усё больш заўважнае пракрамлёўскае лобі і адсутнасьць імунітэту супраць мафіёзнага капіталу расейскіх уладных алігархаў з боку эўрапейскіх палітычных і кіруючых колаў.

*26 чэрвеня 2011*

# У Радыё Свабода – новы прэзыдэнт



**Стывэн Корн**

3 чэрвеня Бюро дырэктараў Радыё Свабода/Радыё Свабодная Эўропа абвясьціла аб прызначэньні новага кіраўніка Радыё. Ім стаў 56-гадовы Стывэн Корн, былы член кіраўніцтва амэрыканскай кампаніі CNN.

Як было адзначана на цырымоніі прызначэньня, Стывэн Корн мае каласальны досьвед працы ў мэдыях, сярод якіх, акрамя CNN, нямецкі тэлеканал n-tv, гішпанскі інфармацыйны радыёканал, амэрыканская кампанія TBS, газэта Daily Report. Юрыст паводле адукацыі, Корн таксама працаваў адвакатам на грамадзянскіх судовых працэсах, якія датычылі дзейнасьці мэдыяў.

Папярэдні кіраўнік Радыё Джэфры Гедмін закончыў сваю працу сёлета ў лютым.

*03.06.2011*

# Радыёоскар - беларускай Свабодзе!

3 чэрвеня ў Вашынгтоне былі абвешчаны ляўрэаты галоўнай узнагароды Рады амэрыканскага замежнага вяшчаньня – прыза Дэвіда Бэрка «За Выдатную Журналістыку». Прыз, які носіць імя першага кіраўніка Рады, уручаецца на знак прызнаньня сьмеласьці, сумленнасьці і прафэсіяналізму журналістаў – супрацоўнікаў Радыё Свабода, Голасу Амэрыкі, Радыё Свабодная Азія, Радыё Марці, Блізкаўсходняга вяшчаньня.

Рада замежнага вяшчаньня ЗША адзначыла працу Беларускай службы ў год прэзыдэнцкіх выбараў . Журналісты выконвалі свой прафэсійны абавязак нягледзячы на шматлікія перашкоды, запалохваньні, затрыманьні, зьбіцьцё.

Рэпартажы беларускай службы Радыё Свабода перадаваліся і цытаваліся CNN, BBC, Нацыянальным грамадзкім радыё ЗША, New York Times, Washington Post, Wall Street Journal, Foreign Affairs, Atlantic, Economist, шырока распаўсюджваліся ў сацыяльных сетках. У перадачах радыё бралі ўдзел вядучыя палітыкі і інтэлектуалы сьвету, былыя прэзыдэнты ЗША і Чэхіі, міністры, сэнатары, філёзафы, дысыдэнты. Шматкроць узрасла аўдыторыя «Свабоды», яе актыўнасьць.

*03.06.2011*

# Атрымана пасьведчаньне аб сьмерці Антона Луцкевіча

Нядаўна Маргарыта Пярова, унучатая пляменніца Старшыні Рады Міністраў і міністра замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі Антона Луцкевіча, атрымала з аддзела запісу актаў грамадзянскага стану па г. Аткарску і Аткарскім раёне Саратаўскай вобласці пасведчаньне аб сьмерці свайго знакамітага родзіча.

У свой час у часопісе ARCHE былі надрукаваныя дакументы аб сьмерці Антона Луцкевіча на перасыльным пункце ў г. Аткарск, а ў кнізе яго твораў “Барацьба за вызваленне” (2009) – фотакопіі рапарту начальніка санітарнай часткі начальніку Аткарскага перасыльнага пункта аб сьмерці А. Луцкевіча і акту аб яго пахаваньні. Аднак, у некаторых даведніках да гэтага часу пішуць, што А. Луцкевіч памёр “каля 1946 г.”.

З дакумента, атрыманага Маргарытай Пяровай, вынікае, што запіс акту аб смерці Антона Луцкевіча за нумарам 390 ўчынены яшчэ 30 лістапада 1943 года. Гэты дакумент яшчэ раз сведчыць, што сынам Антона Луцкевіча (абодва ўжо не жывуць) у адпаведнасці з тагачаснымі інструкцыямі было выдадзена фальшывае пасьведчанне аб сьмерці іх бацькі.

Трэба спадзявацца, што цяпер у даведачнай літаратуры і ў электронным каталогу Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі ў прыватнасці будуць паведамляць праўдзівую дату сьмерці аўтара акту 25 Сакавіка.

*Анатоль Сідарэвіч*

*Ад нашай Рэдакцыі дадамо, што ў мінулым выпуску газэты ў Каляндары памятных датаў мы паведамлялі, што сёлета 9 чэрвеня спаўняецца 130 гадоў ад дня нараджэньня Івана Луцкевіча, старэйшага брата Антона Луцкевіча, грамадзка-палітычнага дзеяча, археоляга, этнографа, заснавальніка Беларускага музэю ў Вільні, які заўчасна памёр ў 1919 годзе.*

*Браты Луцкевічы сталі выбітнымі дзеячамі Беларускага Адраджэньня напачатку 20 стагоддзя, яны былі заснавальнікамі беларускай палітычнай партыі – Беларускай сацыялістычнай грамады, распрацоўвалі пытаньні дзяржаўнага самавызначэння Беларусі — ад канцэпцыі краёвай аўтаноміі да абвяшчэння незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ў яе этнаграфічных межах. Антон Луцкевіч быў адным з найбольш уплывовых грамадзка-палітычных дзеячаў у Заходняй Беларусіі, найперш у Вільні, за што і быў зьнішчаны савецкаю ўладаю пасьля арышту ў 1939 годзе, калі Вільня была далучана да СССР.*

*Каб адзначыць гэтыя дзьве знамянальныя падзеі – знаходку дакумэнта і юбілейную дату мы падаем ў сёньняшнім выпуску газэты партрэты гэтых вядомых беларускіх дзеячаў. Яны былі намаляваныя на замову сп. Антона Шукелойца, які добра ведаў сям'ю Луцкевічаў, маладой мастачкаю Ксеняю Капытка, якая вядзе ў газэце рубрыку Арт – Беларусь. Партрэты ўпрыгожваюць грамадзкую залю Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку і друкуюцца ўпершыню.*



СВИДЕТЕЛЬСТВО О СМЕРТИ

Луцкевич
фамилия
Антон Иванович
имя, отчество
–
гражданство
«–» 58лет – г.
дата рождения
–
место рождения
–
–
умер(ла) 23.03.1942
число, месяц, год (цифрами и прописью)
двадцать третьего марта
одна тысяча девятьсот сорок второго года
о чем 1943 года ноября месяца 30 числа
составлена запись акта о смерти № 390
Место смерти г.Аткарск

Место государственной регистрации
Отдел записи актов гражданского состояния по г. Аткарску и Аткарскому району управления по делам записи актов гражданского состояния Правительства Саратовской области
наименование органа записи актов гражданского состояния

Дата выдачи «17» июня 2009 г.

Руководитель органа записи актов гражданского состояния Э.Н. Дзоаева

II-РУ № 616943



Іван Луцкевіч



Антон Луцкевіч

# У вянок памяці Станіслава Станкевіча (кнігара)

## да 125 угодкаў ад дня нараджэньня

Мне не забыці Край і вёску,
Дзе я радзіўся, падрастаў,
І той загон, тую палоску,
Дзе быдла пасьвіць я ганяў.

І тую ў грудах сенажатку,
Дзе ўсходам сонца я касіў,
Як памагаў свайму я татку,
Дзе першы пот я свой праліў.

Чалавек жыве так доўга, як доўга жыве памяць аб ім, таму галоўная задача Віленскага беларускага таварыства палітычных вязняў і ссыльных бачыцца нам у тым, каб гэтую памяць не толькі захаваць, але і перадаць яе наступным пакаленням.

Да ліку тых, хто варты нашае памяці, адносіцца і Станіслаў Станкевіч, 125-ыя ўгодкі з дня нараджэння якога былі адзначаны ў Вільні ў другой палове траўня.

Нарадзіўся Станіслаў Станкевіч 18 траўня 1886 года, у вёсцы Арляняты, што непадалёк ад Крэва. Колькі і якой адукацыі атрымаў невядома, але, калі хлопчыку споўнілася 17, ён падаецца ў Санкт-Пецярбург – тагачасную сталіцу Расійскай імперыі. Зблізаецца там з беларускай нацыянальна-свядамай моладдзю, бярэ чынны ўдзел у дзейнасці першай легальнай беларускай выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца", наведвае шматлікія гурткі, пачынае пісаць вершы, у якіх адлюстроўвае сваю любоў да радзімы і тугу па родным краі.

У 1919 годзе ён пакідае горад і вяртаецца ў вёску. Блізу года працуе тут сакратаром гміннай рады. Але ягоная замілавасць родным словам прыйшлася не даспадобы тагачасным польскім уладам і ён перабіраецца ў Вільню, дзе з галавой акунаецца ў бурлівае і шматграннае беларускае жыццё.

Спачатку працуе ў кнігарні Беларускага выдавецкага таварыства "Пагоня", а затым – у 1926 годзе – заснуоўвае і становіцца гаспадаром уласнай кнігарні.

Неўзабаве кнігарня становіцца вядомай на ўсю акругу. Тут можна не толькі набыць патрэбную кнігу, часопіс, але і даведацца аб новых, рыхтуемых да друку творах беларускіх аўтараў, замовіць іх. Яна акумулюе ў сабе ўсю неабходную інфармацыю з тагачаснага беларускага грамадскага і літаратурнага жыцця ў Вільні.

Паколькі кнігарня месьцілася непадалёк ад Віленскай беларускай гімназіі, тут, як у пчаліным раі, віруе моладзь. Частымі гасцьмі ў кнігарні бываюць таксама пісьменнікі, паэты, выдаўцы.

Акрамя таго, Станіслаў Станкевіч займаецца выдавецкай дзейнасцю: выдае "Беларускі сьпеўнік", беларускі адрыўны каляндар (разам з Зоськай Верас), два зборнікі ўласнай паэзіі – "Сьмех ня грэх" і "З майго ваконца", а таксама перавыдае паэму "Тарас на Парнасе".

Напрыканцы вайны, у будынак, на першым паверсе якога знаходзілася кнігарня, трапляе снарад і кнігарня згарае. А прыблізна праз паўтара года – 29 кастрычніка 1945-га – арыштоўваюць і яе гаспадара, Станіслава Станкевіча.

Суд над Станіславам Станкевічам адбыўся 14 траўня 1946 года. Далі яму ні многа ні мала 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці (артыкул 581а КК РСФСР "Здрада радзіме").

Зняволенне адбываў у пасёлку Бароўск тагачаснай Молатаўскай (зараз Пермскай) вобласці Расійскай Федэрацыі.

Дамоў вярнуўся ўжо пасля смерці Сталіна, у 1954-м.

Турма, допыты, холад і голад падарвалі здароўе Станіслава Станкевіча і 3 лютага 1964 года яго не стала.

Пахавалі яго на Новых Росах у Вільні.



# Незабыўныя сустрэчы

"Важнае ў жыцьці чалавека - зносіны"- пісаў Экзюперы. Некалі старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве сп. Хведар Нюнька прапанаваў вандраваць па мясьцінах, зьвязаных з жыцьцём і дзейнасьцю выбітных беларускіх дзеячаў. Добрая традыцыя была падтрыманая. Сёлета 21-22 траўня кола чальцоў ТБК наведала Калінінград, там адбылася сутрэча з кіраўнікам беларускай суполкі Ігарам Шаховічам і генеральным консулам Літвы ў Калінінградзе вядомым беларусам Вацлавам Станкевічам.

Цікавае мерапрыемства адбылося ў ТБК у апошнюю суботу траўня. Ва ўтульнай зале Таварыства выступіў праваслаўны мужчынскі хор "Скітас". За сваю кароткую дзейнасьць хор прымаў удзел у міжнародным фестывалі духоўнай музыкі, які кожны год у траўні праходзіць у Вільні. Калектыў пасьпяхова выступаў у каталікоў, гэтым разам - у беларусаў. Кіраўнік хору кампазітар Віктар Мінётас меў слова перад выступленьнем. У канцэрце прагучалі ўрыўкі з праваслаўнага духоўнага рэпертуару. Прысутныя былі ў захапленьні, было шмат станоўчых уражаньняў. Калектыў новы, малады, перспектыўны, у стане прафесійнага росту. Такі канцэрт адбыўся ўпершыню ў ТБК дзякуючы чальцу Таварыства Андрусю Старавойтаву, які сьпявае ў хоры з дня заснаваньня. Ён прфесіянал, скончыў музычную вучэльню ў Беларусі, нейкі час выкладаў музыку.

Леакадзія Мілаш падзялілася ўражаньнямі ад вандроўкі ў Калінінград. Хведар Нюнька ў сваім выступе паставіў пытаньне: "Ці шмат мы ведаем пра тых, хто пачынаў беларускае адраджэньне напрыканцы XX стагодзьдзя?". Напрыклад, 13 траўня споўнілася б 89 год з дня нарадзінаў Лявона Караля. Ён быў дзейным сябрам ТБК, вылучаўся выключнай адказнасьцю. Слухаць яго было адно задавальненьне, гаворка адкрытая, дакладная, да яго слушных парадаў прыслухоўваліся, калі ён уваходзіў у Рэдакцыйную камісію газэты "Рунь", у Раду Таварыства. Сэрца палымянага патрыёта спынілася па дарозе на пасяджэньне Рады ТБК у 1998 годзе Сёньняшняя эканамічная і палітычная сітуацыя ў Беларусі прымушае беларусаў замежжа цікавіцца сітуацыяй, думаць пра лёс мовы, культуры, будучыню. Хацелася б, каб беларуская дзяржава была самастойнай, адкрытай, будавалася на прынцыпах дэмакратыі, каб беларусы замежжа адчувалі падтрымку і без перашкодаў маглі наведваць родных на этнічнай Радзіме, магілы продкаў. Аналізаваў сітуацыю ў Беларусі студэнт ЭГУ Кастусь Манкус, дапоўніў яго палітоляг Артур Юдзіцкі.

Традыцыю па арганізацыі вандровак і цікавых сустрэч было вырашана працягваць і віленскія беларусы наступным разам адправіліся ў пешае падарожжа ў Павільню. Гэта старажытны раён Вільні, паркавая зона, гарыстая мясцовасьць. Першы наш прыпынак касьцёл, які адзначае 100- гадовы юбілей, помнік драўлянага дойлідства, за сьвятыняй- старажытныя могілкі, дзе спачывае беларускі дзеяч Фабіян Ярэміч, сын і жонка Адольфа Клімовіча. Наведаць магілу Ф.Ярэміча і была асноўнай мэтай вандроўкі. Насупраць касьцёла захаваўся дом, у якім з 1946 году жыў Хведар Нюнька, ён расказаў шмат цікавага. Хадзілі па вузкіх вулачках Павільні, захаваліся будынкі пачатку XX стагодзьдзя, спыніліся каля воданапорнай вежы, аглядзелі пляц, дзе стаяў дом жонкі Якуба Коласа, вернуты беларусам - вынік дваццацігадовай, нясьпыннай працы Х.Нюнькі.

Закончылася вандроўка ў сядзібе мастакоў Хрысціны Балаховіч і Алега Аблажэя. Зраньня ліў моцны дождж, у другой палове дня ўсталявалася цёплае, сонечнае надвор'е, якое добра спрыяла падарожжу.Тут у коле сяброў-аднадумцаў доўжылася суразмоўе, Ксеня Мілаш выконвала беларускія песьні. Ліля Балаховіч прапанавала ў чэрвені наведаць яе радзіму, вёску ў Салечніцкім раёне на беларускім памежжы. Позна вечарам, стомленыя, шчасьлівыя, поўныя прыемных уражаньняў вярталіся дамоў, пешшу па вулачках старажытнай Вільні. Такія незабыўныя сустрэчы натхняюць на новыя зьдзяйсненьні і пошукі.

*Леакадзія Мілаш, .Вільня*
*29.05. 2011*



Віленчукі ў Калінінградзе

# Сьвята ў Таронта

Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ўрачыста адзначыла Дзень Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай. З аповядам пра жыццё і дзейнасць славутай беларускай асьветніцы выступіла пісьменніца Вольга Іпатава, аўтарка першай у беларускай літаратуры аповесьці пра Е. Полацкую "Прадыслава"(1971г.). Яна таксама расказала аб тагачаснай рэакцыі уладаў на свой твор, пачынаючы ад разгромнай рэцэнзіі гісторыка Л. Абэцадарскага ў "Советской Белоруссіі" да рэзка негатыўных водгукаў ў абласным і раённым друку Беларусі. Пазьней гэтая аповесьць увайшла ў школьныя праграмы і некалькі разоў перавыдавалася, у тым ліку ў Баўгарыі.

Кіруючы Япіскап Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Сьвятаслаў падзяліўся з прысутнымі зьвесткамі аб гісторыі кананізацыі Сьв. Еўфрасінні і аб высілках нацыяльных рэлігійных дзеячоў па вяртаньні парэшткаў Сьвятой спачатку з Кіева-Пячэрскай лаўры, а потым з Масквы, дзе пасля прыходу да ўлады бальшавікоў ейныя цудадзейныя мошчы былі выстаўленыя ў музеі атэізму.




Прысутныя адзначылі, што такія імёны, як Сьв. Еўфрасіння, робяць гонар кожнай нацыі і ўсяму чалавецтву.

Вяла імпрэзу старшыня Парафіяльнай Рады Надзея Дробіна.

*Ю. Трубец*

# Чэрвеньскі сход Бруклінскага аддзелу БАЗА

Чарговы сход Бруклінскага аддзелу БАЗА, які адбыўся 26 чэрвеня ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, быў прысьвечаны ўшанаваньню памяці выбітных беларусаў, якія нядаўна адыйшлі ў вечнасьць – Уладзіміра Конана і Віталя Сіліцкага. Імпрэзу падрыхтавала разам са старшынёю Аддзелу сп.Таняю Красоўскаю сп. Ала Орса Рамана, якая ўзначальвае культурна-асьветны сэктар ва Управе Аддзелу.

Прысутныя падзяліліся ўспамінамі, выказалі словы шкадаваньня ў сувязі з гэтымі важкімі стратамі для беларускай справы. З цёплымі прамовамі выступілі сп. Вітаўт Кіпель, сп. Зянон Пазьняк, сп. Валянціна Трыгубовіч, сп. Івонка Сурвілла, сп. Юрась Занковіч, сп. Ганна Сурмач. Сп. Галіна Падлеская зачытала тэкст пра В. Сіліцкага дасланы Я. Запруднікам. Вельмі шмат гаварылася пра вялізны ўклад ў беларускую навуку, асабліва ў філязофію, навуковай спадчыны доктара Конана. Віталь Сіліцкі памёр маладым і яшчэ не пасьпеў у поўнай меры рэалізаваць свае здольнасьці, як таленавітага палітоляга, але ягоная праца была адметнаю і ён пакінуў свой добры сьлед у беларскай паліталёгіі.

Сустрэча з гэтай сумнай нагоды перарасла ў грунтоўную гаворку пра сёньняшнюю беларускую сытуацыю, пра нашыя страты і набыткі, пра нашыя таленты, якімі мы можам ганарыцца. Людзі адыйшлі ад нас, але пакінулі нам сваю спадчыну і добрыя ўспаміны пра іх , пакінулі нам абавязак працягваць іх дзейнасьць на карысьць Бацькаўшчыне.

*Марына Яўсейчык*



# Бел-чырвона-белыя сьцягі забароненыя і ў Польшчы?

У спорткомплексе “Łuczniczka” ў Быдгашчы адбыўся інцыдэнт з удзелам грамадзянаў Беларусі. Падчас матчу Эўрабаскета Беларусь-Летува заўзятары беларускай жаночай зборнай вывесілі на трыбуне бел-чырвона-белы сьцяг. Гэта паслужыла нагодай для аховы вывесьці заўзятараў з трыбунаў. Была ўжытая фізычная сіла.

Празь некалькі хвілінаў пасьля таго, як некалькі заўзятараў вывесілі вялізарны бел-чырвона-белы сьцяг, да іх падыйшла прадстаўніца Міжнарожнай фэдэрацыі баскетболу (FIBA) Ванэса Ройтэр. Жанчына пачала тлумачыць, што яны маюць права вывешваць толькі дзяржаўны сьцяг Беларусі. Заўзятары адмовіліся прыбіраць сьцяг. Пазьней на трыбуну прыйшоў супрацоўнік стадыёну й разам з прадстаўніцай FIBA пачалі забіраць палотнішча. Тады беларусы ўзялі ў рукі меньшыя сьцягі й працягвалі стаяць на трыбунах. Праз пару хвілінаў на трыбуне зьявілася шасьцёра ахоўнікаў, якія, спасылаючыся на загад, пачалі сілай выводзіць заўзятараў з залі.

Адзін з заўзятараў паведаміў, што польскія ахоўнікі дзейнічалі па просьбе прадстаўнікоў беларускай зборнай. Сьведкамі інцыдэнту сталі дзясяткі польскіх заўзятараў, якія абураліся дзеяньнямі аховы й запісвалі здарэньне на відэа. Падтрымаць беларусаў прыйшоў нават заўзятар летувіскай зборнай.

Як даведалася Польскае радыё, рашэньне пра выдаленьне заўзятараў прыняла Міжнародная фэдэрацыя баскетболу.

*25.06.2011*

# Што ў Інтэрнэце
## *(ліст з Аўстраліі)*

У Інтэрнэце ўказалася зьвестка аб паходжаньні беларускага этнасу аж ад часоў старажытнай гісторыі. Гэта запіскі старажытнага грэцкага гісторыка Герадота. Ён шмат падарожнічаў, наведаў Вавілон, Фінікію, Егіпет, Сіцылію, гарады Пелапанэса, Сярэдняй Грэцыі і інш. мейсцы.

Герадот жыў прыблізна паміж 484 і 425 г.г. да н.э., у сваіх запісах ён узгадаў народ, які ў антычным часе жыў на землях сучаснай Беларусі і насіў назоў неўры. Дык беларуская нацыя магла б быць унікальнай нацыяй і нават, магчыма, што падлегла б пад апеку Арганізацыі Аб’яднаных Нацыяў. У гэткім выпадку інспектары гэтай міжнароднай арганізацыі памаглі б беларусам устанавіць дэмакратычны парадак і перадаць Лукашэнку пад законы юстыцыі міжнароднага трыбуналу ў Галяндыі, каб вызваліць наш старажытны народ ад дыктатара. Гэта было б справядліва за разбойніцтва над беларускім народам. Каб гэта так адбылося, дык эпоха нішчэньня і паняверання нашай сьвятыні, якой ёсьць для кожнага беларуса ягоная Бацькаўшчына, была б у нейкім парадку прыпыненая.

Мы - змагары за Беларусь беларускую, верым, што Лукашэнка ўжо не мае болей шанс утрымацца ў катэгорыі паважаных людзей у Беларусі. Ён сам навакол сябе нарабіў гразь і цяпер сядзіць у гэтай гразі.

“Аляксандр Лукашэнка! Адыйдзі сам дабравольна з кіраўніцтва Беларускай дзяржаваю. Твая прысутнасьць на гэтым становішчы будзіць у людзей ненавісьць да цябе”. Яшчэ раз заклікаем Лукашэнку: “Адыйдзі дабравольна, не марнуй нашым людзям здароўе ў халодных турэмных камерах, выпусьці іх неадкладна па сваіх дамах!

Мы – беларускія змагары за вольную Беларусь, мы выйграем гэтае змаганьне, а не ты, бо мы – народ, а ты – адзінка”.

*За Беларускі Цэнтральны камітэт у Аўстраліі*
*Я. Барысевіч*
*а. А. Грыцук*
*Мельбурн*

# Запрашэньне на Фестываль у Саўт Рывэры

Беларуская праваслаўная царква Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры (Нью Джэрзы) ветліва запрашае Вас, Вашу сям’ю і Вашых сяброў і знаёмых на сьвяткаваньне беларускіх традыцыяў.

У гэтым годзе Парафіяльны камітэт ладзіць 10 – ты “Беларускі фестываль – 2011” у **суботу 23 ліпеня 2011 году**

Пачатак у 11:00 раніцы і працяг да 8:00 вечара ў царкоўным парку і залі.
Прыходзьце на смачныя стравы, будуць гучаць беларускія фальклёрныя мелёдыі і прадавацца сувеніры.
Фестываль адбудзеццца незалежна ад надвор’я – ці сонца ці дождж!

Інфармацыю наконт фестывалю можна атрымаць па тэлефоне – 1 732 613 71 71 Беларускага грамадзкага цэнтру

**Пабачымся на фестывалі!**

# "… А ці можна есьці сала ў пятніцу?"

***Віктар Шалкевіч. Requiem па непатрэбных рэчах. Гародня, 2011.***

Гэтую кнігу (а яна невялікая – няпоўных сто старонак) варта прачытаць кожнаму, каго цікавіць, як вырастала і фармавалася пасьляваенная Беларусь, у якіх умовах узгадоўваліся тыя, каго сёньня мы агулам называем элітаю нацыі – адданых роднай зямлі і народу творцаў і змагароў. Віктар Шалкевіч сярод іх асоба прыкметная, бо надзвычай калярытная. Ягоны артыстызм, зьедлівая іронія ў спалучэньні з тонкай назіральнасьцю і глыбокім разуменьнем чалавечай сутнасьці, натуральная цікавасьць да людзей – слухачоў на канцэртах або субяседнікаў у паўсядзённасьці, дый (што хаваць!) запамінальная зьнешнасьць і часам экстравагантныя манэры, вядомыя кожнаму, хто хоць неяк далучаны да беларускага культурніцкага асяродзьдзя.

Кніга атрымалася шчымліва-лірычнай, нягучнай, хоць у ёй хапае і самаіроніі, і драматызму, і апісаньняў трагічных здарэньняў. Кампазыцыйна кнігу складаюць 20 кароткіх аповедаў, яшчэ карацейшыя ўступ і фінал ды 20 чорна-белых фатаграфій з сямейнага альбома, на якіх Віктар – галоўная пэрсона, але трапілі ў аб'ектыў таксама бацькі, родныя, суседзі… Штуршок да пачатку ўспамінаў або развагаў кожны раз дае нейкая рэч – найчасьцей ужо малакаштоўная з матэрыяльнага гледзішча, проста ня выкінутая па старой беларускай завядзёнцы (а раптам яшчэ прыдасца!). Бацькавыя папругі, драўляны пэнал ("пюрнік"), радыёла, якая даўно не падлягае рамонту… Дый ня ў рэчах справа! Яны толькі зачэпка. Аднак праз іх маем дакладна, з дробнымі дэталямі апісаны побыт сям'і, часткова – норавы мястэчка, агулам – лад савецкага жыцьця.

Сям'я Шалкевічаў жыла ў мястэчку Поразава на Гарадзеншчыне. Бацькі былі "простымі" людзьмі, мелі невялікія заробкі, таму мусілі дадаткова рупіцца пра хлеб надзённы: трымаць карову ды парсючка, садзіць-капаць бульбу, запасацца сенам ды дровамі на зіму. Дзеці з маленства ўключаліся ў гэты кругабег.



Аднак цяжкая праца не засьціла сьвет! Як прыклад, працытую эпізод з радыёлай, купленай у 1963 годзе: "Каля "Урала-57" (марка той радыёлы – В.Т.) мы праводзілі ўсёй сям'ёю доўгія восеньскія і зімовыя вечары. Часта вечар пачынаўся з таго, што бацькі, напаіўшы карову і ўправіўшыся ў хляве, сядалі ля награтай ужо печкі, і бацька іранічна казаў: "Стась, Юрак, пашукайце лыгачоў (г. зн. Вольную Эўропу), хай палыгуць…" (…) Характэрныя рэзкія галасы, мужчынскія і жаночыя расказвалі нам пра тое, што насамрэч дзеецца ў сьвеце і ў нас. Бацька задумліва рэагаваў: "О, бачыш ты! Файны чалавек быў мой бацька…"




Стась і Юрак – гэта старэйшыя Віктаравы браты, а сам ён, чатырохгадовы ў гэтым прыпомненым жыцьцёвым эпізодзе, быў "самым вольным і шчаслівым чалавекам у сьвеце, таму што сьвет быў побач, трэба было толькі запрасіць Яго да сябе".

Савецкая рэчаіснасьць паўстае са старонак кнігі з усімі яе парадоксамі. Так, сярод даўно непатрэбных сямейных папераў аўтар знайшоў пашпарт кабылы 1947 года нараджэньня, якую мела сям'я Шалкевічаў. (Улік людзкой маёмасьці ўлады вялі дакладны, гэта быў моцны сродак уціску.) А ў тым самым часе мільёны калгасьнікаў пашпартоў ня мелі, праз гэта не маглі свабодна пакінуць жабрачую вёску і пашукаць сабе лепшай долі. Віктаравы бацькі (і такіх было нямала!) рупіліся пра навучаньне дзяцей, пра тое, каб яны маглі рэалізоўваць свае здольнасьці. Дзеля таго ў сьціплым сямейным бюджэце выкройваліся сродкі на кнігі, пласьцінкі, гітару… І зь першай школьнай настаўніцай хлопчыку пашанцавала! Ён хутка стаў актыўным наведнікам бібліятэкі, гадоў у 14 пачаў пісаць вершы, разам зь сябрам падбіраць да іх мэлёдыі і выступаць на школьных імпрэзах… Адной зь бібліятэчных кніжак, зачытаных ім, як кажуць, да дзірак, сталі "Зоркі" амэрыканскага астранома Рэя (Н. А. Rey. The Stars. A new way to see them). "Калі на вуліцы ўвосень станавілася цёмна і холадна, а бацькі, парабіўшы хатнія справы, ішлі да касьцёла на ружанец, я з кніжкаю ў адной руцэ і з кітайскім ліхтарыкам у другой выскокваў увечары на панадворак пад хлеў, куды не дабівала сьвятло вулічных ліхтароў, і пачынаў шукаць на небе групы сузор'яў, азначаныя ў кнізе Рэя." Пад высокім халодным небам падлетак перажываў адкрыцьці цывілізацыі, драмы сюжэтаў, ўвасобленых ў назвах сузор'яў, амаль пераўвасабляўся ў герояў, чымі імёнамі названыя зоркі. І гэтае захапленьне цягнулася не адзін год. Ён ня стаў астраномам або касманаўтам, пра што наўпрост можна было б падумаць, але на фармаваньне творчай асобы, не сумняваюся, тыя гадзіны сам-насам з Космасам моцна паўплывалі. Хоць і спрабуе аўтар перавесьці далей гаворку ў іранічную танальнасьць: "Асабліва мне падабалася расказваць пра зорнае неба прыгожым дзяўчатам, а ім падабалася слухаць…" Працягам гэтай "зорнай гісторыі" сталася нечаканая сустрэча з кнігай Рэя ў нью-ёркскай кнігарні праз дваццаць зь нечым гадоў пазьней. І цяпер яна стаіць на кніжнай паліцы ў гарадзенскай кватэры Віктара Шалкевіча і час ад часу вяртае яго ў далёкае дзяцінства.

Дзіцячымі ўспамінамі кніга пачынаецца, але фрагмэнтамі ў іх прысутнічае і вайсковая служба, і пачаткі прафэсійнай працы, і нейкія вандроўкі па сьвеце… Паўсюль пры гэтым – сустрэчы зь цікавымі людзьмі. Вось хоць бы манаха-жыцьцялюба Крысьпіна згадаю! Аднойчы, калі нейкі навязьлівы чалавек прычапіўся да яго з пытаньнем "Брацішку, а ці можна есьці сала ў пятніцу?", ён, хітра ўсьміхаючыся, адказаў: "Калі парэзаць на маленькія кавалачкі, то так!". Ягоны досьціп Віктар пераняў бліскуча… Шкада, тут няма магчымасьці прывесьці ўласныя сьведчаньні.

Аднак не магу не сказаць, што кніга Віктара Шалкевіча выйшла ў сэрыі "Гарадзенская бібліятэка", якая была запачаткаваная ў 2007 годзе і мае на мэце пашыраць весткі пра Гародню і гарадзенцаў свабоднымі ад ідэалягічнай хлусьні сучаснай улады. Гэтая кніга – дванаццатая па ліку. Для тых чытачоў, каго зацікавіла "Гарадзенская бібліятэка", падаю адрас яе каардынатара Паўла Мажэйкі: zasvabodu.hrodna@gmail.com

*Валянціна Трыгубовіч*

# Беларускія "табурэтачнікі" вярнуліся ў Менск

Ужо некалькі разоў у нашай газэце мы падавалі інфармацыю пра ход акцыі "Табурэтка", у якой прынялі ўдзел журналістка Жэня Манцевіч з групаю сяброў-аднадумцаў. Яны даставілі табурэтку з гомельскай кухні на мыс Горн. Перад пачаткам свайго падарожжа па Паўднёвай Амэрыцы яны гасьцявалі ў беларусаў Нью-Ёрку і паабяцалі нам дасылаць у газэту рэпартажы пра сваё падарожжа, што і зрабілі двойчы.

Гэта была чацьвертая міжнародная экспедыцыя "З табурэткаю да акіяну". Цягам году чатыры каманды – украінская, беларуская, расейская і міжнацыянальная – аўтастопам дабіраліся да крайняй кропкі Паўднёвай Амэрыкі – мыса Горн. Пад час падарожжа яны знаёмілі мясцовых жыхароў са сваёй нацыянальнай культурай, ладзілі тэатральныя і музычныя імпрэзы.



*Жэня Манцэвіч пасьля вяртаньня дамоў*

*17.06.2011*

# Жанчыны беларускага замежжа

## Людміла Бакуновіч

Заўсёды, калі надараецца бываць ў беларускай царкве ў Гайленд Парку, з прыемнасьцю назіраю, як клапатліва завіхаецца ў грамадзкай залі пад царквою сп. Людміла Бакуновіч. Накорміць усіх смачным абедам пасьля службы ў царкве, усім ветліва ўсьміхнецца, прывітае. Сп. Людміла ўзначальвае сястрынства пры царкве і шмат у чым дзякуючы менавіта ёй там пануе прыемная сяброўская атмасфэра пад час розных беларускіх імпрэзаў ці нават ў звычайную нядзелю, калі людзі зьбіраюцца, каб проста пагутарыць, абмяняцца навінамі.

Сп. Людміла належыць да паваеннай хвалі эміграцыі і мне нeяк падумалася, што вось яна цяпер ужо на пенсіі і мае час так шмат займацца беларускімі справамі. Але, пад час апошняй сустрэчы ў нашай бруклінскай царкве мы разгаварыліся і для мяне сталася нечаканасьцю, што, аказваецца, сп. Людміла не мае так шмат вольнага часу, бо дапамагае дачцы Сафіі даглядаць яе чатырох дзетак. Наймалодшы з іх, хлопчык нарадзіўся зусім нядаўна – 2 чэрвеня і гэта ёсьць ужо дванаццаты сярод унукаў і унучак сп. Людмілы. З гэтай радаснай падзеяй мы віншуем сп. Людмілу.

Разам са сваім мужам Уладзімірам Бакуновічам сп. Людміла выгадавала пяцёра дзяцей – сына і чатырох дачок. Іхнае сямейнае жыцьцё пачыналася ў Бэльгіі. Абодва яны выехалі напрыканцы вайны з бацькамі на Захад. Сям’я Уладзіміра трапіла ў Аўстралію, дзе і да сёньня жыве адзін ягоны брат Мітрафан, другі- Аляксандра нядаўна памёр і сп. Людміла ездзіла на пахаваньне. Пад час маёй паездкі ў Аўстралію я некалі таксама пазнаёмілася з Аляксандрам і ведала яго, як актыўнага чалавека ў беларускім грамадзкім жыцьці.

Будучы муж Людмілы з Аўстраліі паехаў вучыцца ў вядомы беларусам Лювэн, дзе маладыя людзі і пазнаёміліся, а потым выехалі ў Амэрыку. Жылі напачатку ў Нью Джэрзы, там нарадзіліся іх трое дзяцей, а потым муж дастаў добрую працу ў Дэтройце і Бакуновічы перасяліліся ў штат Мічыган. На той час ў Дэтройце была досыць актыўная беларуская грамада, там жылі Сажычы, Плескачы і іншыя вядомыя беларускія сем’і. Бакуновічы далучыліся да беларускага жыцьця і актыўна працавалі там праз увесь час. Бралі дзейны ўдзел у пачатках дзейнасьці там беларускай царквы.

Тут патрэбна сказаць, што Людміла была далучаная да царкоўнага жыцьця ад самага маленства. Яе дзед Сьцяпан Войтэнка быў сьвятаром. Сям’я паходзіць з Гарадзеншчыны, з гістарычных мясьцінаў. Людміла нарадзілася ў Міры. Ейны бацька Віктар Войтэнка быў лекарам, жылі потым ў Баранавічах і Слоніме. Доктар Войтэнка пад час вайны заклаў вядомую медычную школу ў Баранавічах, дзе вучылася шмат беларускай моладзі.

На эміграцыі дзед Людмілы Сьцяпан Войтенка стаў першым сьвятаром ў беларускай царкве ў Гайленд Парку, дзе зараз так актыўна працуе Людміла.

Пасьля сьмерці Сьцяпана Войтэнкі паўстала пытаньне, хто пяройме ягоныя сьвятарскія абавязкі. І тады ягоны сын Віктар высьвяціўся на сьвятара і пачаў працягваць справу бацькі адначасна працаваў і лекарам, каб утрымаць сям’ю.

Віктар Войтэнка ездзіў у Дэтройт і служыў там першую службу ў новай беларускай царкве.

Сп. Людміла скончыла Даглас каладж, які цяпер ў складзе Ратгерскага універсытэту, вывучала біялёгію і хімію. Некаторы час ў Нью Джэрзы працавала ў фармацэўтычнай кампаніі. Але, пасьля пераезду ў Дэтройт, калі сям’я павялічылася, ужо мусіла гадаваць дзяцей і займацца хатнімі справамі.

Дзеці падрасьлі і няўрымслівы характар сп. Людмілы не дазволіў ёй сядзець дома. Скончыла настаўніцкія курсы і атрымала права на выкладчыцкую працу. Пасьля 14 гадоў выкладала хімію і біялёгію ў публічных школах Дэтройту.

Калі памёр муж і прыйшла пара выйсьці на пенсію, сп. Людміла вырашыла, што і далей нельга сядзець ў хаце ў адзіноце, а лепш дапамагаць дзецям гадаваць ўнукаў. Шэсць гадоў таму яна вярнулася ў Нью Джэрзы, каб дапамагчы дачцы Сафіі, якая на той час найбольш патрабавала падтрымкі маці, каб гадаваць траіх дачок. Вось у сям’і Сафіі і нарадзіўся цяпер той дванаццаты ўнук і расьце на руках ў бабулі.




**Людміла Бакуновіч з унучкамі (дочкамі Сафіі) і дванадцатым унукам Дзінам**

Але, мацярынскае сэрца найбольш баліць зараз пра іншых чатырох унукаў, якія жывуць ў Мічыгане і гадуюцца без маці. Некалькі гадоў таму дачку сп. Людмілы Ганну забіў уласны муж і асіраціў дзяцей, бо і сам зараз у турме. Усіх чатырох іх узяла на выхаваньне самая малодшая дачка Людмілы Елізавета. Яна самотная, не мела сваёй сям’ і і ўзяла на сябе гэтую цяжкую ношу. Так вось падтрымліваюць адзін аднаго ў гэтай вялікай сям’і, галавою якой цяпер ёсьць сп. Людміла. Наведвае яна і сваіх траіх унукаў ад старэйшай дачкі Натальлі і ўнука ад сына Віктара. Дабрыні і цеплыні ў сп. Людмілы хапае на ўсіх іх, яшчэ дастаецца і нам, калі мы прыходзім ў беларускую царкву ў Гайленд Парку.



**Людміла Бакуновіч ( на пярэднім пляне)**

Іншымі вачыма гляджу цяпер на зграбную постаць беларускай жанчыны ў нацыянальным строі, якая заўсёды прысутная на беларускіх імпрэзах, бо яна не толькі пры царкве, але і актыўная сяброўка БАЗА і сябра Рады БНР. Дзіўлюся яе духовай і фізічнай моцы, яе нязломнасьці і жыцьцялюбству, яе адказнасьці і цьвёрдасьці характару. Усё гэта дасталося ёй ў спадчыну ад двух моцных беларускіх родаў – Войтэнкаў і Бакуновічаў.

*Ганна Сурмач*

## Сьв. пам. Васіль Шчэцька

*(18 сакавіка 1923 – 27 траўня 2011)*



У штаце Нью Джэрзі памёр 27 траўня сёлета на 89-ым годзе жыцьця Васіль Шчэцька, беларускі патрыёт і грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ён у вёсцы Апечкі, што каля гораду Стоўпцы (сёньня Менская вобласьць). Нябожчык прайшоў праз жыцьцё складанымі шляхамі й сьцежкамі часоў польскай і савецкай акупацыяў, бадзяльнага пражываньня ў паваеннай Нямеччыне, працы й навукі ў Вялікабрытаніі, Бэльгіі ды Амэрыцы.

На працягу доўгіх гадоў жыцьця на чужыне Васіль Шчэцька трымаўся свае грамады, дзякуючы чаму здолеў працягваць асьвету ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, а пасьля -- у Лювэнскім унівэрсытэце ў Бэльгіі. Быў актыўным удзельнікам беларускага скаўцкага руху, здабыў сабе ступень скаўтмайстра. Пасьля заканчэньня гімназіі два зь лішнім гады (1948-1950) адпрацаваў у ангельскіх вугляка-пальнях. У Англіі належаў да так званае Дванаццаткі -- групы выпускнікоў Купалаўскай гімназіі, што таксама працавалі ў шахтах. Дванаццаткаўцы за свае заробленыя грошы выдавалі месячны часапіс “Наперад!”. Васіль друкаваўся ў ім пад псэўдонімам М. Багун як аўтар легендаў, народных паданьняў.

У сакавіку 1950 г. дзевяцём з дванаццаткаўцаў, у тым ліку Васілю, пашчасьціла атрымаць стыпэндыі й стацца студэнтамі Лювэнскага ўнівэрсытэту. Там, апрача навукі, сябры беларускага студ энцкага згуртаваньня праводзілі актыўную культурна-інфармацыйную дзейнасьць. Васіль сьпяваў у хоры М. Равенскага, быў сябрам танцавальнага гуртка. Гісторыя Дванаццаткі, групы хлапцоў-бязбацькавічаў у пэрыядзе 1946-1954 гадоў, апісаная ў маёй кнізе “Дванаццатка”.

З Бэльгіі Васіль Шчэцька, закончыўшы факультэт палітычных і сацыяльных навукаў і ажаніўшыся з бэльгійкай Жанэт Дэляп'ер, выехаў у 1955 г. у Амэрыку. Быў два гады старшынём кліўлендзкага аддзелу БАЗА. У 1958 г. перабраўся ў Нью Ёрк, уладзіўся на працу ў бібліятэцы Калюмбійскага ўнівэрсытэту. У 1959 г. на кангрэсе БАЗА яго выбралі за сакратара галоўнай управы.

Працягам усіх далейшых гадоў Васіль Шчэцька браў актыўны ўдзел у грамадзкім і рэлігійным жыцьці. Пасьля 29 гадоў бібліятэкарскай працы, у 1988 г. выйшаў на пэнсію. У 1995 г. аўдавеў. Дзяцей у яго ня было. У 1997 г. ажаніўся з былой настаўніцай зь Менску сп-няй Алай Кузьміцкай. Яна й дагледзела яго да канца жыцьцёвай дарогі.

Васіль Шчэцька быў чалавекам лагоднай натуры. Беларус-патрыёт, шчыра адданы сям'і, сябрам, грамадзе, ён заўсёды быў гатовы, пакуль дазваляла здароўе, удзельнічаць у грамадзкіх, рэлігійных ды нацыянальных справах. Моцна цікавіўся падзеямі ў Беларусі, дзе ў яго засталіся сваякі.

Пахаваны нябожчык на беларускім праваслаўным могільніку ў Іст Брансўіку ў штаце Нью Джэрзі.

Вечная памяць вернаму сыну Беларусі Васілю Шчэцьку, а жонцы, сваякам і сябрам шчырае спачуваньне.

*Янка Запруднік*

*Сп. Ала Кузьміцкая*
*Выказвае шчырую падзяку ўсім, хто даслаў свае спачуваньні ў сувязі з адыходам ў вечнасьць ёйнага мужа, актыўнага беларускага дзеяча сьв. пам. Васіля Шчэцькі.*
*Асаблівую ўдзячнасьць дасылае спадарству Надзі і Янкі Запруднікаў за вялікую дапамогу ў гэты цяжкі для яе час.*

### СПАЧУВАНЬНЕ

Выказваем глыбокае спачуваньне сям'і Сяргея Рагалевіча й родзічам з прычыны раптоўнай сьмерці 5 чэрвеня Сяргеевага сына, 42-гадовага Майкла Рагалевіча. Пахаваны нябожчык на могільніку царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры. Вечная яму памяць.

*Надзя й Янка Запруднікі*

## Каляндар памятных датаў на ліпень 2011 году

**5 ліпеня** – 10 гадоў таму, у 2001 годзе, у Менску адбыўся Трэйці зьезд беларусаў сьвету

**6 ліпеня** – 160 гадоў таму, у 1851 годзе, нарадзіўся Янка Лучына, паэт

**7 ліпеня** – 215 гадоў таму, у 1796 годзе, нарадзіўся Ян Чачот, асьветнік паэт фальклярыст

**8 ліпеня** – 150 гадоў таму, у 1861 годзе, нарадзілася Магдалена Радзівілл , мецэнатка

**15 ліпеня** – 135 гадоў таму, у 1876 годзе, нарадзілася Алаіза Пашкевіч (Цётка), паэтка, асьветніца, выдавец

**16 ліпеня** – 110 гадоў таму, у 1901 годзе, нарадзіўся Аляксандр Крыт, рэлігійны і грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытыніі і ЗША

**16 ліпеня** – 35 гадоў таму, у 1976 годзе, памёр Янка Станкевіч, грамадзка-культурны дзеяч, мовазнаўца, гісторык, выдавец, публіцыст, педагог, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**21 ліпеня** – 120 гадоў таму, у 1891 годзе, нарадзіўся Сымон Кандыбовіч, грамадзка- палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне

**23 ліпеня** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзіўся Антон Валынчык, хормайстр, кампазітар, педагог

**23 ліпеня** – 45 гадоў таму, у 1966 годзе, памёр Аляксандр Ружанцоў, грамадзка-палітычны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**24 ліпеня** – 115 гадоў таму, у 1896 годзе, нарадзіўся Аляксандр Орса, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**25 ліпеня** – 95 гадоў таму, у 1916 годзе, нарадзіўся Мікалай Каранеўскі, інжынер, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі

**25 ліпеня** – 5 гадоў таму, у 2006 годзе, памёр Янка Брыль, пісьменьнік

**27 ліпеня** – 105 гадоў таму, у 1906 годзе нарадзіўся Ежы Гедройц, грамадзкі дзеяч, рэдактар польскага часопісу “Культура”, спрыяў разьвіцьцю беларускай культуры

**27 ліпеня** – 70 гадоў таму, у 1941 годзе, выйшаў першы нумар “Менскай газэты” (потым “Беларуская газэта”)

### На выдавецкі фонд Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ахвяравалі:

К. І С. Вініцкія - $100 дал.
М. Швэдзюк - $ 50
*У памяць Васіля Шчэцькі:*
Л. Літаровіч - $ 50
А. Арэшка - $50
Ю. Кіпель - $100
В. Кіпель - $100
Я. і Н. Запруднікі - $100

*У памяць Аляксандра Кольбы:*
Т. Кольба (Стагановіч) – $250
Н. і Я. Запруднікі - $100
А. Кіпель - $100
В. Кіпель - $100
Ж. Дубяга – $50
Л Літаровіч - $40

**БІНІМ шчыра дзякуе ўсім ахвярадаўцам**

## Беларускі рэкорд

26 кастрычніка 2010 Эўразьвяз агалосіў доўгую лісту прозьвішчаў розных беларускіх кіраўнікоў і служ-боўцаў – прэзыдэнта, пракурораў, суддзяў, кадэбістаў і амонаўцаў, на якіх былі наложаныя абмежавальныя меры, ім забараняўся ўезд у краіны Эўразьвязу. Першым на лісьце ёсьць прэзыдэнт Аляксандр Лукашэнка.

23 траўня 2011 году Эўразьвяз агалосіў чарговую лісту з прозьвішчамі новых 13 асобаў з Беларусі, на якіх таксама распаўсюдзіліся агранічальныя меры. Сярод іх ёсьць 7 суддзяў, 4 пракуроры, 1 дырэктарка сярэдняй школы, 1 кіраўнік аналітычнага цэнтру пра адміністрацыі прэзыдэнта. Усяго за час панаваньня Лукашэнкі Эўразьвяз накладваў агранічэньні на многіх асобаў з Беларусі. Дык, узяўшы пад улік значную колькасьць гэтых асобаў, можна сказаць, што Беларусь стаіць, хіба, на першым месцы ў Эўропе па такому пакаказьніку. Але, такім “першынством” не выпадае ганарыцца.

*Міхаіл Швэдзюк*
*Англія*

## Сьв. пам. Уладзімер Конан

***(23 красавіка 1934 – 6 чэрвеня 2011)***



Ня стала Ўладзімера Конана. Выбітны філёзаф і літаратуразнаўца, доктар навук, прафэсар пакінуў гэты сьвет у ноч на 6 чэрвеня. Ад 23 красавіка яму ішоў 78-ы год.

Уладзімер Конан — аўтар тысяч артыкулаў, дзясяткаў манаграфій, укладальнік некалькіх збора Ён нарадзіўся 23 красавіка 1934 году ў вёсцы Вераскава Наваградзкага раёну ў сялянскай сям'і. У 1952 годзе скончыў мясцовую сярэднюю школу. У 1959 годзе скончыў гістарычны факультэт БДУ, з 1962 году працаваў у Інстытуце філязофіі і права АН Беларусі. Доктар філязофскіх навук па спэцыяльнасці эстэтыка, прафэсар. З 1991 году ўзначаліў аддзел гісторыі і тэорыі культуры Нацыянальнага навукова-асьветніцкага цэнтру імя Францішка Скарыны.

Ляўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1984 году за ўдзел у напісаньні цыклю калектыўных манаграфій па гісторыі філязофскай і грамадзка-палітычнай думкі Беларусі. Дасьледаваў тэарэтычна-мэтадалягічныя праблемы філязофіі і культуралёгіі, гісторыю эстэтычнай думкі, гісторыю беларускай культуры, беларускі фальклёр. Аўтар шматлікіх манаграфій і кніг, у тым ліку "Разьвіцьцё эстэтычнай думкі ў Беларусі (1917-1934 гг.)" (1968), "Ад Рэнэсансу да клясыцызму» (1978), "Сьвятло для людзей: Родная мова і культура ў эпоху перабудовы" (1989), «Сьвятло паэзіі і цені жыцьця: Лірыка Максіма Багдановіча» (1991) і іншых.

---

Уладзімер Конан не жыве. Яшчэ адзін сьветлы чалавек Беларусі адышоў у іншы сьвет назаўсёды. Зрэшты, адышла толькі яго прысутнасьць. Ён застанецца ў нашай культуры, філасофіі і культуралогіі як адкрывальнік і тлумачальнік прыгожай праўды разьвіцьця беларускага эстэтычнага духа. Конан ня толькі дасканала раскрываў сутнасьць беларускай эстэтыкі і культуры, ён пісаў "класна", паказваў прыгожы ўзровень думкі.

Я ведаў яго з 60-х гадоў, з часу выданьня першых ягоных прац па беларускай эстэтыцы. Гэта быў ясны сумленны беларускі розум. У яго не было абсалютна ніякага налёту савецызму. І за саветамі ён думаў і паводзіў сябе як вольны беларус, прадстаўнік эліты нашай інтэлігенцыі. Гэта быў вельмі сьціплы і сымпатычны чалавек з ціхім голасам і задуменным позіркам, павернутым унутр самога сябе, як бывае ў людзей рамантычнай душы. Як чалавек, як асоба ён заўсёды чымсьці нагадваў мне мае ўяўленьні пра Максіма Багдановіча. І думаю, што маё адчуваньне мяне не падманвала.

Бывай, дарагі Валодзя! Можа там вы спаткаецеся разам... Там, ля сіняй бухты, у краіне сьветлай...

*Зянон Пазьняк*
*6 чэрвеня 2011 г.*

---

Ад імя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва выказваем глыбокае засмучэньне адыходам зь зямнога шляху Ўладзіміра Конана, волата беларускай навукі, выдатнага філёзафа, дасьледніка Беларусі, нашага блізкога сябры й надзвычай сьціплага чалавека.

Вечная яму памяць, а сваякам і сябрам шчырае спачуваньне.

*Др. Вітаўт Кіпель*
*Др. Янка Запруднік*

## Сьв. пам. Віталь Сіліцкі

***(25 сьнежня 1972 – 11 чэрвеня 2011)***



11 чэрвеня на 39-м годзе жыцьця ад цяжкай хваробы памёр палітоляг Віталь Сіліцкі.

Віталь Сіліцкі нарадзіўся 25 сьнежня 1972 году.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт па спецыяльнасьці сацыёляг. Вучыўся ў Цэнтральнаэўрапейскім унівэрсытэце (Будапэшт, Вугоршчына), дзе атрымаў ступень магістра паліталёгіі, у Ратгэрскім унівэрсытэце (Нью-Джэрсі, ЗША), у якім атрымаў ступень доктара паліталёгіі.

*Янка Запруднік*

### ПАМЯЦІ ВІТАЛЯ СІЛІЦКАГА

Перадчасная сьмерць Віталя Сіліцкага нанесла вялізарную страту беларускаму грамадзкаму, палітычнаму й навуковаму жыцьцю. Выбыў з актыву аналітыкаў сучаснага палітычнага раздарожжа ў Беларусі сьветлагаловы палітоляг Віталь Сіліцкі. Як камэнтатар беларускай сучаснасьці, Віталь адзначаўся ня толькі шырокім кругаглядам -- набыткам грунтоўнай асьветы -- але й грамадзянскай адвагай. Віталь гаварыў публічна тое, да чаго прыходзіў на аснове аналізу падзеяў і сытуацыі.

Нехта трапна сказаў: трэба быць адважным, каб весьці спрэчкі з ворагам, але яшчэ больш адважным, каб спрачацца зь сябрамі. Віталь не баяўся спрачацца зь сябрамі, бо навуковая сумленнасьць была яму даражэйшай за аднадумства з прыяцелямі. Грамадзянская адвага была асаблівa дадатнай рысай Сіліцкага-палітоляга, бо ў беларускім публічным дыскурсе выказваньне непапулярнай думкі выклікае цірэдчас з боку порсткіх (часта ананімных) камэнтатараў абразьлівыя словы й мянушкі. Аляксандар Фядута, адзін зь Віталевых сяброў , з жалем сказаў пасьля ягонай сьмерці: у нас ёсьць шмат людзей для сварак, але мала для спрэчак. Азь Віталем было цікава спрачацца. Ён плённа стымуляваў грамадзкую думку, і ў гэтым наша найвялікшая страта зь ягоным адыходам.

У мяне зь Віталем завязалпася самая цесная сувязь яшчэ з часу ягонага студэнцтва ў Ратгерскім унівэрсытэце, дзе ён рабіў бакалаўрат. Ягонае зацікаўленьне кампаратыўным мэтадам вывучаньня сацыяльных і палітычных зьяваў заўсёды давала тэму да гутарак і спрэчак, у якіх ён вырабляў свой падыход да ацэнак рэчаіснасьці.

Калі ж у 2005 годзе выдавецтва Скеркроў Прэс зьвярнулася да мяне з прапановай перавыдаць мой анґламоўны, апублікаваны ў 1998 годзе, "Гістарычны слоўнік Беларусі" (а ўзяцца за гэта я ня мог дзеля занятасьці), я параіў выдавецтву зьвярнуцца да Сіліцкага. Віталь ахвоча згадзіўся. Нам двум быў запрапанаваны кантракт, які мы падпісалі ўлетку 2006 году. Дамова прадугледжвала, што слоўнік выйдзе пад двума прозьвішчамі: Сіліцкага й Запрудніка. Віталь салідна папрацаваў над дапаўненьнем даведніка і ён выйшаў у 2007 годзе ў сэрыі "Гістарычныя слоўнікі Эўропы". Апрача гэтага, кніга была апублікаваная ў мяккай вокладцы ў сэрыі "From A to Z".

У сваёй прадмове да другога выданьня "Гістарычнага слоўніка Беларусі" Віталь прысьвяціў яго памяці Ўладзіміра Каткоўскага, маладога журналіста й навукоўца, які перадчасна памёр у веку 31-го году. Якая трагічная іронія лёсу: адзін памірае ў 31 год, а другі – у 38!

У прысьвяце Віталь напісаў: "Асобы Ўладзіміра Каткоўскага я ніколі не сустракаў, але ягоныя непаслабныя намаганьні пашыраць беларускую мову, культуру й гісторыю ў інтэрнэце прывялі да стварэньня шматлікіх інтэрнэтаўскіх рэсурсаў, якімі я карыстаўся ў сваёй працы".

Уладзімір Каткоўскі зыйшоў з жыцьця 26 траўня 2007 году, акурат дзень перад тым як Віталь выслаў да друку свой апрацаваны манускрыпт гістарычнага слоўніка.

Сьветлыя постаці двух заўчасна памерлых навукоўцаў і патрыётаў, завочна зьяднаных у пошуку выйсьця Беларусі з постсавецкага тупіка, стаяць сёньня перад намі як сымбаль беларускай гістарычнай трагедыі. Але іхныя постаці адначасна – і сьведчаньне таго, што беларуская народная глеба ня страціла свае самаабароннае пладавітасьці, ня страціла свайго нацыянальнага імунітэту.

Вечная памяць Віталю Сіліцкаму ў вечнай Бацькаўшчыне, якой ён шчодра паслужыў сваім зямным жыцьцём!

# Як сябе паводзіць пад час арышту

*(парады адваката)*

Паводзіны чалавека пры арышце вельмі важныя з пункту гледжаньня таго, які лёс яго напаткае ў бліжэйшай будучыні. На жаль, шмат якія нашыя суайчыньнікі, прызвычаеныя да размоваў зь «мянтамі» ў Беларусі, спрабуюць дзейнічаць па тых жа стэрэатыпах у Амэрыцы. Вынікам гэтага часьцяком робяцца буйныя непрыемнасьці, уключаючы фізычныя траўмы і нават турэмнае зьняволеньне.

Галоўнае адрозьненьне паліцыянта ад «мянта» ў тым, што паліцыянт заўсёды ўпэўнены ў сваёй рацыі, законнасьці сваіх дзеяньняў, і ў тым, што ягоная асоба і годнасьць недатыкальныя і абароненыя законам. Паліцыянты дакладна ведаюць свае працэдуры і перакананыя, што калі яны дзейнічаюць у згодзе зь імі, то ім нічога не пагражае. У той жа час яны чакаюць ад вас, што вы будзеце таксама выконваць гэтыя працэдуры. З пункту гледжаньня амэрыканскай логікі парушэньне працэдуры – гэта або парушэньне закону, або падрыхтоўка да яго. А такія дзеяньні мусяць быць неадкладна спыненыя афіцэрам паліцыі.

З гэтае прычыны ведаць свае правы і абавязкі выключна важна дзеля таго, каб пасьпяхова абараніцца ў судзе і аднавіць вашыя парушаныя правы. Шмат якія з прыведзеных парадаў вам, магчыма, вядомыя па галівудзкіх фільмах. Розьніца аднак у тым, што тут, у Злучаных Штатах, гэта ўжо не далёкая заморская казка, а правілы, якія неабходна дакладна стасаваць да рэальнага жыцьця.

Ніжэй прыведзеныя шэраг парадаў, як сябе паводзіць у выпадку сустрэчы з паліцыяй. Гэты матэрыял падрыхтаваны на падставе юрыдычнай практыкі офіса адваката Тані Гендэльман.

Заўсёды кантралюйце свае дзеяньні, не распускайце язык, зьвяртайце ўвагу на свае жэсты, кантралюйце свае эмоцыі. Ні ў якім разе ня трэба тлумачыць паліцыянту, што ён ня мае рацыі – паліцыянт перакананы ў адваротным. У вас будзе магчымасьць прыцягнуць яго да адказнасьці з дапамогай прафесійнага адваката ў тым выпадку, калі ён парушыў вашыя правы. Тым больш ня трэба абражаць афіцэраў паліцыі – у гэтым выпадку звычайнае пытаньне, якое вам задалі на вуліцы, і на якое вы неадэкватна прарэагавалі, можа мець наступствам арышт і крымінальную справу.

Не спрачайцеся з паліцыяй. Ні пра што і ніколі. Па-першае, вы толькі пагаршаеце сваё становішча. А па-другое, пад час спрэчкі вы паведамляеце паліцыянтам дэталі, якія лепш ім ня ведаць, бо гэтыя веды могуць у будучым пашкодзіць вам.

Памятайце, што ўсе сказанае вамі можа быць выкарыстаным супраць вас. Не абмяркоўвайце дэталі інцыдэнту з паліцыянтамі да таго часу, пакуль вы не сустрэліся са сваім адвакатам. Паводле закону, калі вы нешта сказалі, афіцэр паліцыі можа засьведчыць гэта ў судзе, і невядома, чым гэта ў выніку абернецца для вас.

Трымайце рукі на відавоку ў паліцыянтаў. Амэрыканскія паліцыянты добра натрэніраваныя на выпадак непрыемнасьцяў і заўсёды гатовыя да іх. Таму лепш увесь час дэманстраваць ім, што вы не ўяўляеце для іх пагрозы і ня маеце пры сабе зброі. Любое падазраньне ў адваротным можа скончыцца вялікімі праблемамі для вас.

Не ўцякайце ад паліцыянтаў і не дакранайцеся да іх. Калі вы ўцякаеце, паліцыянт можа вырашыць, што вы вінаватыя і хочаце пазьбегнуць адказнасьці. Дотык жа да яго можа быць успрыняты як напад з усімі магчымымі наступствамі.

Не супраціўляйцеся, нават у тым выпадку, калі вы абсалютна перакананыя ва ўласнай невінаватасьці. Калі афіцэр вырашыў ваш арыштаваць, значыць ён перакананы ў вашай віне, і супраціўленьне будзе ім успрынятае як яшчэ адзін доказ віны. Да таго ж у гэтым выпадку закон дазваляе яму прымяняць гвалт, нават вельмі грубы.

Не спрачайцеся на месцы здарэньня. Ня варта таксама казаць паліцыянтам, што вы будзеце на іх скардзіцца – ні да чаго добрага гэта не прывядзе. Дастаткова, што вы адзін раз спакойным тонам скажаце, што вы ня згодныя зь дзеяньнямі паліцыянтаў. Пакіньце ўсё астатняе вашаму адвакату.

Не рабіце ніякіх заяваў наконт здарэньня ні на месцы, ні ў паліцэйскім участку да таго часу, пакуль вы не абмяркавалі ўсё з адвакатам.

Патрабуйце адваката адразу пасьля таго, як даведаліся, што вы арыштаваныя. Калі ў вас няма магчымасьці аплаціць ягоныя паслугі, то вам прадаставяць бясплатнага адваката.

Запомніце або запішыце нумары паліцэйскіх жэтонаў і патрульных аўтамабіляў – вам гэта спатрэбіцца пры абскарджваньні дзеяньняў паліцыі.

Запішыце пры нагодзе ўсё на паперу, каб не разьлічваць толькі на ўласную памяць.

Пастарайцеся знайсьці сьведкаў, запытайце іх імёны і нумары тэлефонаў.

Калі вы былі параненыя, пастарайцеся сфатаграфаваць вашыя раны пры нагодзе. Аднак не забывайцеся, што вашае здароўе даражэйшае, і таму ня варта адмаўляцца ад мэдычнай дапамогі толькі дзеля як мага больш трагічных здымкаў.

Калі вас абшукваюць, не супраціўляйцеся, але гучна скажыце, што вы ня згодныя, каб вас абшуквалі. Гэта важны момант – інакш паліцыянты могуць сказаць, што вы былі згодныя на вобшук. Калі ж вашай згоды няма, а паліцыя ня мела падставаў для вобшуку, то пасьля любыя доказы, здабытыя пад час такога вобшуку, будуць адкінутыя судом. Калі афіцэр прапануе вынуць вам самім усё з кішэняў дзеля вобшуку, вы можаце адмовіцца – скажыце, што вы не згаджаецеся з вобшукам.

Спыніць і затрымаць вас на вуліцы можна толькі ў выпадку падазраньня ў парушэньні закону. Калі вас спынілі, то ветліва запытайцеся паліцыянтаў, ці вы арыштаваныя, ці можаце спакойна ісьці далей. Паліцыянт ня мае права патрабаваць ад вас дакуманты, калі толькі не падазравае вас у парушэньні закону. Аднак ня варта проста адмаўляцца прад'яўляць дакуманты – заўсёды дзейнічайце з галавой. Напрыклад, у сітуацыі падвышанай тэрарыстычнай пагрозы паліцыянты будуць шмат у каго патрабаваць дакуманты, і яны чакаюць ад вас супрацоўніцтва і разуменьня сітуацыі, а не адмоваў.

Калі паліцыя затрымала вас на машыне, то вы абавязаныя прадставіць свае правы, рэгістрацыю машыны і доказ наяўнасьці страхоўкі (страхавую картку). У пэўных выпадках афіцэр можа зладзіць ператрус у машыне. Калі ён вырашыў тое зрабіць, то вы мусіце гучна сказаць, што вы ня згодныя на ператрус. Перашкаджаць ператрусу вы ня можаце.

Калі вам выпісалі штраф, то вы мусіце распісацца за яго; у адваротным выпадку вас могуць арыштаваць. Аспрэчваць штраф вы будзеце пазьней у судзе. Калі вас спынілі па падазраньні ў кіраваньні машынай у нецьвярозым стане, то адмова ад асьведчаньня раўняецца прызнаньню віны, і вас могуць арыштаваць, а машыну эвакуяваць.

Калі паліцыянты прыйшлі да вас дахаты, то без вашага дазволу яны ня могуць туды ўвайсьці, калі ў іх няма ордэру на ператрус (па-ангельску warrant). Выключэньнем зьяўляецца надзвычайная сітуацыя, напрыклад, калі ёсьць пагроза жыцьцю чалавека. Папрасіце афіцэраў паказаць вам ордэр – яны мусяць яго прад'явіць.

Калі вас арыштавалі ў хаце ці ў працы, то паліцыя мае права вас абшукаць, а таксама агледзець тыя месцы, што знаходзяцца побач з вамі, каб па магчымасьці знайсьці доказы злачыннай дзейнасьці.

У пастарунку не паведамляйце паліцыянтам нічога, апроч свайго імя і адрасу. Не давайце ніякіх тлумачэньняў і нічога не падпісвайце да сустрэчы з адвакатам. Калі ў вас ёсьць уласны адвакат, патрабуйце неадкладнай сустрэчы зь ім. Калі ў вас няма такога адваката, то вы маеце права ня бясплатнага адваката ў тым выпадку, калі справа перадаецца ў суд, то бок калі вам выстаўленыя абвінавачваньні.

Вы можаце таксама ў разумны тэрмін (пры першай лепшай нагодзе) патрабаваць ад паліцыянтаў паведаміць вашым сваякам пра вашае месцазнаходжаньне. Калі вам дазволілі затэлефанаваць, то не паведамляйце суразмоўцу ніякія дэталі, бо паліцыя мае права запісаць размову. З гэтай жа прычыны не абмяркоўвайце па тэлефоне спосабы абароны ці якія факты. Будзьце асьцярожнымі.

І ня варта прымаць рашэньні ці размаўляць з кім-заўгодна да сустрэчы з вашым адвакатам.

Калі ў вас здарыліся непрыемнасьці, вы можаце ў любы час дня ці ночы затэлефанаваць адвакату Тані Гендэльман па тэлефоне (718) 616-1414.

Наш сайт: www.wesettle.com/belarusian.html. Мы гаворым па-беларуску.

*Юрась Зянковіч*
*Матэрыял падрыхтаваны ў супрацоўніцтве з адвакатам Таняй Гендэльман*

**На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| Л.Варанцова | $ 55 |
| В.Яцэвіч | $ 50 |
| Беларускі Грамадскі Цэнтр у Саўт Рывэры | $ 50 |
| А.Мясьнікоў | $ 100 |
| М. Швэдзюк | $ 50 |

**Выказваем шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам!**

БЕЛАРУС
Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце
Выдае:
Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне

BIELARUS
Belarusan Newspaper in the Free World
Published by
Belarusan American Ass'n, Inc.

**Склад Рэдакцыі:**

Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)

Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку

Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)

Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com

Валеры Дворнік - адказны за друк

Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**

Паштовы адрас:

*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэкламы нясе рэкламадаўца.*